НА ЎЛАСНЫЯ ВОЧЫ

# Як я галасавала ў Славакіі

*Нядзеля. Вакол ціха. Напэўна, жыхары Браціславы не ведаюць, што ў іх пад бокам адбываецца свята волевыяўлення. А я ведаю і іду яго шукаць...*

Рэдка нашы людзі паказваюць сябе з лепшага грамадзянскага боку. На выбары ходзяць з неахвотай, цягнуцца адразу ў буфеты, кандыдатаў не ведаюць... Гора, а не выбаршчыкі. А для іх так стараюцца! Але за мяжою па-іншаму пачынаеш глядзець на айчынныя рэаліі, і нешта ў грудзях пачынае свярбець і нашэптваць: "Хто, калі не ты?.."

Так,назіраючы з вышыні гістарычнага Браціслаўскага града за павольным бегам хваляў шырокага Дуная, я вырашыла завітаць у беларускае Пасольства ў Славакіі. Ну натуральна, уся краіна жыве выбарамі, няўжо я не выканаю свой прафесійны абавязак і не знайду сцяжынку да кавалачка роднай зямлі?

Варта адзначыць, што ранішнія нядзельныя шпацыры — не тое, што варта рабіць у Браціславе. Ці варта, калі вы любіце адзіноту і атмасфера закінутага сярэднявечнага горада — тое, што вам трэба. На вуліцы, што вядзе да пасольства, толькі прыватная забудова. Сімпатычныя домікі, некаторыя адрамантаваныя наноў, некаторыя — закінутыя. І вось нарэшце, калі ўжо пачало падавацца, што я набліжаюся да тэрыторыі Аўстрыі, паказаўся беларускі сцяг...

Знаходжу дзверы і надпіс па-руску на белым аркушыку, што прыляпілі скотчам да сцяны: "Выбарчая акруга". Вось мая мэта! Званю ў дзверы і... цішыня. Няўжо не чакаюць? Але дзверы адчыняюцца, і супрацоўніца пасольства з усмешкай вядзе мяне ўнутр.

Выбарчы пункт арганізаваны наўпрост у невялікім пакойчыку, што размясціўся ў аддзеле прыёму дакументаў. На століку стаіць белая урна. Чамусьці мне яна нагадала кардонныя скрыні, у якія ў школе мы кідалі "валянцінкі" з прызнаннямі. Скрыня не вялікая і не маленькая, белая, з пячаткамі і лічбамі. А побач стаяць цукеркі, вафлі і іншыя ласункі — пачастунак для выбаршчыкаў.

Прызнаюся, што ў Славакіі праездам, і вось проста вырашыла зайсці, прагаласаваць. Запаўняем усе дакументы, правяраем. Мне выдаюць бюлетэнь з трыма імёнамі кандыдатаў. Выбіраць можна толькі з траіх — так было вырашана ў ЦВК. Маўляў, усіх ахапіць немагчыма, таму аднясём усіх нетутэйшых беларусаў да адной акругі. За выбарамі сочыць трэці сакратар Аляксандра Грыдзюшка, ёй дапамагае першы дарадца пасольства Уладзімір Чахлоў.

Уся падрыхтоўка да майго галасавання адбываецца нават неяк урачыста — іншых "грамадзянскіх" выбаршчыкаў, акрамя мяне, няма. Усе супрацоўнікі пасольства "адстраляліся" яшчэ з раніцы, а свядомых беларусаў чакаць не даводзіцца. Усе трошкі напружваюцца, калі чуюць, што ў госці да іх завітала "Народная Воля", але хутка атмасфера цяплее.

*"Мы паведамлялі ўсім беларусам, што пражываюць у Славакіі і стаяць на консульскім уліку, аб тым, што будуць адбывацца выбары,* — распавёў Уладзімір Чахлоў. — *У нас іх зусім няшмат. Большасць адразу заявілі, што нікуды не паедуць. Зразумела, калі чалавек жыве ў другой частцы краіны, цягнуцца сюды за ўласны кошт яму няма ніякай ахвоты. Дый грамадзянства беларускае трымаюць толькі з-за таго, што там засталіся сваякі ды магілы блізкіх. Людзі не надта ўнікаюць у тое, што адбываецца ў Беларусі".*

Разбіраюся са сваім бюлетэнем. Праўда, кабіны няма, так што "хавацца" прыйшлося супрацоўнікам пасольства. Калі паперка знікае ў скрыні, мяне клічуць на гарбату.

За слодычамі і гарбатай мы прасядзелі каля гадзіны. Размаўлялі аб палітыцы і жыцці, Беларусі і Еўропе, дзецях і коштах. Адным словам, пра надзённае ды набалелае. Пра выбары не размаўлялі.

На развітанне мне прапанавалі ўзяць некалькі цукерак, ветліва праводзілі да дзвярэй і перадалі прывітанне Мінску. Так што, калі мяне запытаюць, як прайшлі беларускія парламенцкія выбары ў Славакіі, я прызнаюся, што міла. Няхай і ў камернай атмасферы...

**Марыя МАЛЕВІЧ.**

*Браціслава.*

УКРАИНА

## *США грозят Януковичу санкциями*

*Сенат США одобрил резолюцию, предложенную сенатором-республиканцем Джеймсом Инхофом в соавторстве с сенатором-демократом Диком Дурбином, и призвал Государственный департамент США ввести санкции в отношении должностных лиц Украины, причастных к тюремному заключению экс-премьера Украины Юлии Тимошенко.*

*"Сенат призывает Государственный департамент ввести визовые санкции в отношении лиц, ответственных за лишение свободы Юлии Тимошенко и жестокое обращение с ней, а также за осуждение других политических лидеров, связанных с "оранжевой" революцией 2004 года",* — говорится в резолюции, обнародованной на официальном сайте сената США.

Кроме того, сенат призвал правительство Украины освободить Тимошенко, обеспечить ей надлежащий доступ к медицинской помощи, а также провести парламентские выборы, назначенные на 28 октября, справедливо и прозрачно в соответствии со стандартами ОБСЕ, в которой Украина будет председательствовать в 2013 году.

Сенат США также отметил, что дальнейшее содержание Тимошенко в тюрьме ставит под угрозу отношения между США и Украиной.

Тимошенко в октябре 2011 года была приговорена к семи годам лишения свободы за превышение власти при подписании в 2009 году газового соглашения с РФ, сейчас она отбывает наказание в женской колонии в Харькове (с мая находится на лечении в харьковской больнице). В конце марта в Киевский районный суд Харькова было передано второе дело против Тимошенко, которое касается ее деятельности во главе корпорации "Единые энергетические системы Украины" во второй половине 1990-х годов. Она подозревается в финансовых махинациях.

Сама Тимошенко и ее соратники считают осуждение оппонентов президента Януковича и других оппозиционеров политически мотивированным преследованием, однако представители власти это отрицают. Осуждение Тимошенко и так осложнило отношения Украины со странами Запада, где время от времени звучат предложения о применении санкций против властей Украины, однако пока на Западе ждут честных парламентских выборов в Верховную Раду Украины.

БАКУ—МІНСК

# Спыніць драпежніка!

*Нататкі з Міжнароднай канферэнцыі "Нафта, газ і медыя"*



Усім вядома: там, дзе здабываюцца нафта і газ, дзе вядзецца гандаль імі, там круцяцца жудасна фантастычныя грошы.

Але ж прыродныя радовішчы не могуць належаць канкрэтным асобам альбо кланам, нетры — агульнанароднае багацце.

Таму літаральна паўсюль надзвычай востра стаіць адно і тое ж пытанне — як выкарыстоўваюцца падземныя рэсурсы, як размяркоўваюцца нафта- і газадолары, колькі з іх трапляе ў афіцыйны бюджэт краіны, а колькі — у бяздонныя кішэні так званых алігархаў і "сямей" кіруючай эліты?

Зразумела, грамадства зацікаўлена ў тым, каб усё, што звязана з распрацоўкай нафта- і газарадовішчаў, перапрацоўкай, транспарціроўкай і гандлем вуглевадароднымі прадуктамі, знаходзілася пад пільным кантролем, было аб'ектам публічнага абмеркавання, адной з галоўных тэм сродкаў масавай інфармацыі. На жаль, другі бок — тыя ж нафта- і газакампаніі — не зацікаўлены ў гэтым, бо іх грандыёзны бізнес (не заўсёды чысты) прыносіць ім велізарныя барышы.

А чаму самы тлусты кавалак пірага павінен даставацца вузкаму колу асоб, а не ўсяму народу? Вось праблема, над якой два дні, вобразна кажучы, біліся ўдзельнікі Міжнароднай канферэнцыі "Нафта, газ і медыя", што на мінулым тыдні праходзіла ў Баку. Больш за 90 журналістаў з 27 краін з'ехаліся ў Азербайджан, каб карпаратыўна абмеркаваць надзвычай важную тэму, выпрацаваць агульны план дзеянняў. Сярод іх знаходзіўся і прадстаўнік "Народнай Волі".

Ініцыятар правядзення канферэнцыі — Міжнародны інстытут прэсы на чале з сусветна вядомай барацьбіткай за свабоду слова **Алісан Бетэль МакКензі.** Да журналістаў звярнуўся з прывітальным пісьмом прэзідэнт Азербайджана **Ільхам Аліеў,** што выклікала пэўныя каментарыі з боку некаторых "акул пяра і мікрафона". Не сакрэт, Азербайджан можа ганарыцца тым, што ён першым у свеце здабыў першы барэль нафты, што ў апошнія дзесяць-пятнаццаць гадоў зрабіў значны крок у развіцці эканомікі, паляпшэнні дабрабыту насельніцтва. Але ж застаецца відавочным фактам і тое, што Азербайджан на сённяшні дзень з'яўляецца праблемнай краінай у плане станаўлення дэмакратыі, замацавання на інфармацыйным полі незалежных СМІ. Судзяць і кідаюць за краты апазіцыянераў-палітыкаў, незалежных журналістаў не толькі ў Беларусі, гэта, і, магчыма, нават у большых маштабах, робіцца і ў Азербайджане.

І ўсё ж падчас канферэнцыі мяне больш хвалявала яе ключавая тэма — нафта, газ і медыя. Галоўную задачу СМІ вызначыла тая ж Алісан Бетэль МакКензі: *"Недапушчэнне дыктатарства і аднабаковага лідарства ў нафта- і газавым бізнесе — адна з асноўных задач незалежнай журналістыкі".* Так, толькі адкрытая, чэсная канкурэнцыя можа спрыяць цывілізаванаму развіццю бізнесу ў стратэгічнай галіне эканомікі. Драпежніка можа спыніць такі ж драпежнік. А каб драпежнікі вялі бой па правілах, побач, на правах нейтральных рэферы, павінны знаходзіцца незалежныя сродкі масавай інфармацыі. Не купленыя тымі ж бізнес-магнатамі, а сапраўды незалежныя, нейтральныя. І аб'ектыўныя.

З гэтай нагоды на канферэнцыі ў негатыўным плане дзясяткі разоў узгадваліся ўрады тых краін, якія зацугълялі газеты, радыё, тэлебачанне і нават інтэрнэт з адной мэтай: закрыць рот свабоднаму слову. Дарэчы, адзначалася, што Расія, як і Беларусь, дрэйфуе менавіта ў гэтым накірунку. Больш за тое, пуцінскі ўрад спрыяе таму, каб тыя ж нафтавыя і газавыя монстры мелі свае медыяактывы. Газеты, радыё- і тэлеканалы, якія кормяцца з рукі вялікага бізнесу, не могуць "ставіць яго на месца", быць апанентам, выкрываць злачынствы перад прыродай, грамадскасцю, дзяржавай. Знаёмячыся са спісам удзельнікаў канферэнцыі, я заўважыў: у Баку не прыехалі журналісты "Камерсанта", "Известий", цэнтральных расійскіх тэлеканалаў, не кажучы пра прадстаўнікоў рэгіянальных сродкаў масавай інфармацыі. Выпадкова? Не. У Расіі той жа "Газпром" — гэта дзяржава ў дзяржаве, сапраўдны фінансавы спрут. Ён, як і нафтамонстры, узяў у абцугі не толькі ўладныя структуры, але і многія газеты, радыё- і тэлеканалы. А паколькі тэма міжнароднай канферэнцыі супярэчыць іх драпежніцкім інтарэсам, то, можна здагадвацца, імі і была дана адмашка не ўдзельнічаць у міжнароднай прафесійнай дыскусіі. Да таго ж трэба ўлічваць і сённяшнюю сур'ёзную канкурэнцыю на сусветным узроўні паміж нафта- і газавымі карпарацыямі Расіі і Азербайджана.

Што і казаць, СМІ могуць выконваць сваю крытычную ролю, толькі будучы незалежнымі як ад буйнога бізнесу, так і ад дзяржавы. Прэзідэнты, урады краін з устойлівай дэмакратыяй гэта добра разумеюць, і з іх лексікону даўным-даўно знікла такое словазлучэнне, як "дзяржаўныя газеты, радыё, тэлебачанне". Яны ў сапраўды дэмакратычных краінах альбо грамадскія, альбо наогул прыватныя, якія падпарадкоўваюцца толькі закону.

Калі ўдзельнікі канферэнцыі гаварылі пра гэта, я думаў: у Беларусі пакуль што ўсё пастаўлена з ног на галаву. "Советская Белоруссия" як была 17 гадоў таму прэзідэнцкай вотчынай, так і застаецца. "Звязда", "Рэспубліка", "Белорусская нива", іншыя выданні хоць афіцыйна маюць больш сціплых уладных заснавальнікаў і выдаўцоў, але на самай справе ўсе яны знаходзяцца пад абцасам таго ж самага "Чырвонага дома". Як і Беларускае радыё з тэлебачаннем.

Чаму свабодныя, незалежныя сродкі масавай інфармацыі небяспечны для нафтагазавых карпарацый? За здзяйсненнем многіх буйнамаштабных праектаў хаваюцца карупцыя, злачынствы перад прыродай, мясцовым насельніцтвам, будучыняй вялікіх тэрыторый. Прэлюдыяй канферэнцыі стаў паказ у Міжнародным цэнтры Мугама фільма пра эквадорскую Амазонію. Дзясяткі гадоў нафтагазавыя кампаніі ЗША выпампоўвалі адтуль мільярды долараў, але іх мала хвалявaў лёс карэнных жыхароў, лад жыцця якіх парушаўся самым нахабным чынам. Недаравальныя страты наносіліся прыродзе, здароўю мясцовага люда. І ў іх абарону паўсталі як незалежныя журналісты, праваабарончыя арганізацыі, так і ўрад Эквадора, сённяшні прэзідэнт краіны Рафаэль Карэа. І ёсць станоўчыя вынікі. У апошні час нафтадаходы Эквадора павялічыліся ў некалькі разоў, што станоўча адбіваецца на ўсёй эканоміцы краіны. Адначасова з інтэнсіўным развіццём інфраструктуры ўсё больш і больш грошай выдзяляецца на адукацыю нацыі. І гэта не выпадкова: будучае краіны — добра падрыхтаваныя спецыялісты ва ўсіх галінах.

Безумоўна, нафтагазавы бізнес сёння мае транснацыянальны характар. І каб выкрыць яго сапраўднае аблічча, міжнародная журналістыка павінна аб'ядноўваць свае намаганні. Журналісты з Еўропы пад вострым вуглом разглядалі на канферэнцыі, напрыклад, праблемы, звязаныя з будаўніцтвам газаправода "Паўночны паток". Хто прымае ўдзел у рэалізацыі гіганцкага праекта? Нямецкія і расійскія кампаніі. А хто за імі стаіць? З нямецкага боку — экс-канцлер Германіі спадар Шродэр. Ён жа — даўні сябра Пуціна. У камандах гэтых знакавых асоб нямала людзей са спецслужб, структур сумніўнага характару. Як ні прыкра, многія факты даюць еўрапейскім журналістам падставы раскручваць карупцыйную тэму. Шкада, але, як адзначалася на канферэнцыі, у гэтым недастатковую дапамогу аказваюць ім расійскія калегі. Ці не таму, што спрут "Газпрома" пранік у мас-медыя і павязаў кіраўніцтва многіх рэдакцый па руках і нагах?

Так, бізнес, звязаны з нафтай і газам, хоча дыктаваць сваю волю не толькі журналістам, але і палітыкам. І там, дзе апошнія схіляюцца перад націскам "чорна-сініх баронаў", у першую чаргу пакутуюць звычайныя людзі. У мяне валасы на галаве дыбам сталі, калі пачуў, што ва Угандзе, якая мае велізарныя залежы нафты, якая дапусціла да распрацовак радовішчаў кампаніі з сусветна вядомымі брэндамі, людзі жывуць на 1,25 долара ў дзень. Галеча пры неабсяжных прыродных багаццях! І гэта ў XXI стагоддзі.

Ёсць гэтаму альтэрнатыва? Безумоўна, ёсць. І павучальны вопыт для пераймання ёсць. І тут трэба аддаць належнае тым жа бацьку і сыну Аліевым. Былому прэзідэнту Азербайджана і сённяшняму. Пры ўсёй іх аўтарытарнасці яны не забылі пра інтарэсы народа. Дзеля гэтага Азербайджан далучыўся да Міжнароднай праграмы "Ініцыятыва транспарэнтнасці", якая прадугледжвае ўдзел грамадскай супольнасці ў кіраванні нафтагазавымі даходамі. А таксама міжнародны аўдыт. З трыбуны канферэнцыі была станоўча ацэнена дзейнасць Дзяржаўнага нафтавага фонду Азербайджана. Інфармацыя пра яго актывы перыядычна друкуецца ў перыядычнай прэсе, даступна для ўсіх жыхароў краіны. Частка сродкаў фонду ўліваецца ў эканоміку, а другая частка — захоўваецца для будучых пакаленняў. Жыццё азербайджанцаў мяняецца, як кажуць, на вачах. Мае калегі, якія былі ў Баку гадоў пятнаццаць таму, не пазналі горад — ён настолькі змяніўся ў лепшы бок, што вось-вось стане "сінгапурскім цудам". Добрыя перамены адбываюцца і на перыферыі.

У бізнесменаў ёсць выраз: "Грошы любяць цішыню". Што яны маюць пры гэтым на ўвазе — усім вядома. А таму іх інтарэсы, на жаль, часта разыходзяцца з інтарэсамі грамадства, урадаў. Хто, як не незалежныя сродкі масавай інфармацыі, могуць і павінны паставіць драпежнікам падножку? Але гэта магчыма толькі там, дзе ёсць свабода слова, дэмакратыя ва ўсіх іх праявах. Менавіта на гэтай ноце закончылася ў Баку Міжнародная канферэнцыя "Нафта, газ і медыя".

**Іван ПАКРОЎСКІ.**

У СУСЕДЗЯЎ

## *Што пра Польшчу думаюць і кажуць іншыя*

*У Кракаве прайшоў II Кангрэс замежных даследчыкаў гісторыі Польшчы. У ім удзельнічалі 250 гісторыкаў з 30 краін, у тым ліку і з Беларусі. Галоўнай тэмай стаў аналіз гісторыі Польшчы ў кантэксце гісторыі Цэнтральнай Еўропы.*

Амаль тры чвэрці польскіх палітыкаў маюць гістарычную адукацыю, — зазначыў на адкрыцці кангрэса спікер польскага Сената Богдан Барусевіч. Кангрэс гісторыкаў дае магчымасць даведацца, што пра Польшчу думаюць і кажуць іншыя, ён важны для фарміравання вобразу палякаў за мяжой, — упэўнены палітык.

Мэтай кангрэса замежных даследчыкаў гісторыі Польшчы з'яўляецца заахвочванне замежных навукоўцаў да вывучэння польскай гісторыі, а таксама знаёмства польскіх гісторыкаў з іншымі поглядамі на мінулае краіны.

КАЗАХСТАН

# Давай, до свидания!

*Премьер-министра Казахстана вместе со всем правительством отправили в отставку*



Президент Казахстана Нурсултан Назарбаев освободил Карима Масимова от должности премьер-министра республики в связи с поданным им заявлением, сообщает агентство "Новости—Казахстан" со ссылкой на пресс-службу главы государства.

Отставка премьер-министра влечет за собой отставку и всех членов правительства, министры будут исполнять свои обязанности до формирования нового кабинета. Впрочем, по конституции Казахстана, кандидатура на пост нового премьер-министра должна быть вынесена на рассмотрение парламента страны в ближайшие десять дней. А политологи и эксперты уже сейчас называют основного кандидата на высокий пост. *"Новым главой правительства будет назначен нынешний первый вице-премьер Серик Ахметов",* — заявил РИА "Новости" источник в правительственных кругах.

Ахметов в разные годы работал первым заместителем мэра Астаны, заведующим государственной инспекцией управления организационно-контрольной работы и кадровой политики администрации президента Казахстана, председателем правления Союза предпринимателей и работодателей Казахстана "Атамекен", министром транспорта и коммуникаций, заместителем премьер-министра Казахстана. В ноябре 2009 года он стал губернатором Карагандинской области. А с января 2012 года занял должность первого вице-премьера.

В свою очередь отправленный в отставку Масимов, по мнению советника президента Казахстана Ермухамета Ертысбаева, станет руководителем администрации главы государства — занимавший этот пост Аслан Мусин в минувшую пятницу был освобожден от своей должности и назначен главой Счетного комитета страны.

Масимов дольше всех из премьеров возглавлял правительство Казахстана, он работал в этой должности с января 2007 года. Масимов окончил Пекинский институт языка, Юридический институт Уханьского университета, Казахскую государственную академию управления. Имеет специальности юриста-международника и экономиста. Доктор экономических наук. В Беларуси он известен как постоянный визави руководителей белорусского правительства на переговорах по созданию Единого экономического пространства и Таможенного союза.

## *Еўрапарламент не адновіць кантактаў з Палатай прадстаўнікоў*

*Пра гэта заявіў прэзідэнт Еўрапарламента Марцін Шульц у сувязі з парламенцкімі выбарамі ў Беларусі.*

"Я глыбока шкадую, што парламенцкія выбары ў Беларусі ў чарговы раз не адпавядалі міжнародным стандартам справядлівага і празрыстага выбарчага працэсу. У сітуацыі, калі лідары апазіцыі застаюцца ў турме, калі некаторым апазіцыйным кандыдатам адмоўлена ў рэгістрацыі, а народу затыкаецца рот, адбылася насмешка над дэмакратычнымі выбарамі. Выбары былі азмрочаны абмежаваннямі доступу да сродкаў масавай інфармацыі, перашкодамі, якія чыніліся міжнародным назіральнікам пры кантролі за падлікам галасоў, і паведамленнямі пра ціск на розныя групы выбаршчыкаў. Беларусь па-ранейшаму ідзе па недэмакратычным шляху, пазбаўляючы сваіх грамадзян грамадзянскіх правоў і права карыстацца перавагамі больш шчыльнага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам. Я шкадую, што ў гэтай сітуацыі Еўрапарламент не зможа аднавіць афіцыйныя адносіны з беларускім парламентам. Я ўжо даўно страціў ілюзіі адносна добрай волі беларускага кіраўніцтва ўзяць на сябе абавязацельствы дзеля таго, каб правесці дэмакратычныя рэформы. Еўрасаюз урэшце павінен распрацаваць эфектыўную стратэгію дачыненняў з Беларуссю — гэта значыць вырашыць, як цвёрда рэагаваць на абуральныя парушэнні правоў чалавека і вяршэнства закона і як падтрымліваць беларускі народ і яго грамадзянскую супольнасць, якая змагаецца са шматлікімі цяжкасцямі", — цытуе Марціна Шульца Радыё Свабода.

## *В Южной Корее обнаружена новая форма свиного гриппа*

Учёные обнаружили у корейских свиней новый штамм свиного гриппа H1N2. Исследования на хорьках показали, что этот вирус смертелен для животных и может передаваться по воздуху. Сейчас специалисты пытаются понять, насколько опасна новая форма гриппа для человека.

СКАНДАЛ

## *США не выдали визы 20 иранским чиновникам, собравшимся на Генассамблею ООН*

Минимум 20 участников иранской делегации не смогут принять участие в очередном заседании Генассамблеи ООН из-за отказа США выдать им визы, сообщает иранское информационное агентство Fars. Среди лиц, получивших отказ в визе, оказались два министра.

Всего запросы на американскую визу подали около двух месяцев назад 160 чиновников, входящих в состав делегации, возглавляемой президентом Ирана Махмудом Ахмадинежадом.

Агентство не уточняет, кто именно из министров не сможет посетить США, однако отмечает, что сопровождать президента будут министр иностранных дел страны Али Акбар Салехи и глава управления аппарата президента Эсфандияр Рахим Машаи.

Анонимный американский чиновник заявил "Рейтер", что при принятии решения о выдаче виз американские чиновники строго руководствовались нормами действующего законодательства.

Ожидается, что Ахмадинежад произнесет свою заключительную речь перед участниками заседания Генассамблеи ООН в эту среду.

США, ряд других стран Запада и Израиль подозревают Иран в разработке ядерного оружия под прикрытием программы мирного атома. Тегеран не отрицает, что обогащает уран до 20%, однако заявляет, что его атомная программа направлена исключительно на удовлетворение потребностей страны в электроэнергии.

В настоящее время в отношении Ирана действуют четыре санкционные резолюции Совета Безопасности ООН. Помимо этого, различные резолюции, требующие от Ирана обеспечить полную прозрачность ядерной программы и доказать ее исключительно мирную направленность, принял в одностороннем порядке ряд стран и организаций.

### КСТАТИ

Министр иностранных дел Беларуси Владимир Макей во главе белорусской делегации также едет на Генассамблею ООН. Визу он получил, несмотря на то, что также включен в список невъездных в западные страны.

КВАТЭРНАЕ ПЫТАННЕ

# 7800 долараў за метр у мінскай новабудоўлі — міф

*Сенсацыйная навіна абляцела Мінск на пачатку года. Нібыта квадратны метр у самых дарагіх новабудоўлях Мінска каштуе 7800 долараў.*

*"У студзені былі прададзены тры "залатыя" 1-пакаёвыя кватэры ў адной і той жа новабудоўлі на вуліцы Лабанка. "Квадрат" у іх, па даных Нацыянальнага кадастравага агенцтва, абышоўся пакупнікам у 6700—7800 долараў"*, — паведамляла сталічная прэса. *Такая цана для нашага рынку нерухомасці — выключэнне. Па даных рыэлтараў, у першай палове лютага квадратны метр на першасным рынку каштаваў у сярэднім 1208 долараў. Хоць калі назваць лічбу ў беларускіх рублях (а гэта каля 10,1 мільёна), то цана метражу паўстае ўжо не такой прывабнай і мінімальнай".*

Прычым крыніца інфармацыі была аўтарытэтнай. Нацыянальнае кадастравае агенцтва паведаміла тады, што за такі салідны цэннік былі прададзены тры аднапакаёўкі ў новабудоўлі на вуліцы Лабанка. Аднак пазней высветлілася, што сенсацыя аказалася дутай.

У Нацыянальным кадастравым агенцтве разабраліся з астранамічным цэннікам і высветлілі, што ўласнік кватэр няправільна ўказаў кошт сваёй нерухомасці. Так, уладальнік памылкова паказаў агульную суму за ўсе свае тры аднапакаёўкі ў графе "кошт кватэры". Вось і атрымалася ўражлівая сума за 1 квадратны метр — 7800 долараў. Хоць на самай справе гэтая сума складала "ўсяго" 2600 долараў, што, зрэшты, амаль у два разы вышэй за сярэдні цэннік. Бо ў сярэднім квадратны метр на першасным рынку на пачатку гэтага года трымаўся на ўзроўні 1200 долараў. У Маскве, да прыкладу, на пачатку года сярэдняя цана за 1 кв. м дасягала амаль 5000 долараў.

ТЫМ ЧАСАМ

## Пентхаўс за 3,5 мільёна долараў

*Цяпер у Мінску прадаюць "самую лепшую кватэру сталіцы". Так, у доме на вуліцы Кісялёва прадаецца пентхаўс агульнай плошчай амаль 1000 квадратных метраў з аб'ёмным гаражом на 5 месцаў. Кошт прапановы ўражвае — 3,5 мільёна долараў.*



**Калі вярстаўся нумар, стала вядома: пентхаўс за 3,5 мільёна долараў ужо прададзены. Але ў гэтым жа доме ёсць яшчэ крыху таннейшыя...**

Што ўяўляе сабой дом, дзе размешчана гэта жыллё?

На сайце напісана: *"Элітны жылы дом клубнага тыпу размешчаны ў Цэнтральным раёне Мінска, у квартале вуліц Кісялёва—Чырвонай—Куйбышава—Камуністычнай і прымыкае да набярэжнай ракі Свіслач. Пабудаваны па індывідуальным дызайнерскім праекце, прыемна здзівіць жыхароў і іх гасцей сваім унутраным аздабленнем, камфортам, вышынёй столяў 3,6 м і 4,8 м у пентхаусах. Лесвічныя холы афармлены аўтарскімі вітражамі ў тэхніцы "Ціфані". Дом абсталяваны эксклюзіўнымі бясшумнымі хуткаснымі ліфтамі аўстрыйскай кампаніі Schindler, аздабленне з выкарыстаннем натуральнага дрэва і люстэркаў. У доме прадугледжана шкляная галерэя, якая ацяпляецца, што злучае ўсе пад'езды з фізкультурна-аздараўленчым комплексам. Добраўпарадкаванне тэрыторыі будзе выканана згодна з архітэктурнымі асаблівасцямі будынка.*

*Аздабленне і афармленне кожнага з чатырох пад'ездаў будзе адлюстроўваць розныя пары года. Праект, дарэчы, так і называецца — "Поры года".*

Мяркуецца, што дом будзе здадзены ў эксплуатацыю ў гэтым годзе.

**Сяргей ДЗМІТРЫЕЎ.**

СТРАТА

## «Гэта быў чалавек залатых рук і светлай душы...»

*На выхадных не стала вядомага мастака Генадзя Асташонка. Творцу было толькі 57 гадоў, апошнія гады ён змагаўся з анкалагічнай хваробай.*



Генадзь Асташонак належаў да славутай суполкі "Пагоня". Разам з паплечнікамі ён выробляў унікальныя ўзоры беларускай і замежнай зброі, рэканструяваў рыцарскія даспехі. Яго творы ўпрыгожваюць многія музеі і прыватныя калекцыі. У адкрытым Мірскім замку зброя Генадзя Асташонка займае асобную вітрыну. Убачыць ягоныя барэльефы можна і ў зале ўрачыстасцяў мінскай ратушы.

Пра смерць мастака паведаміў народны паэт Беларусі **Рыгор Барадулін.** Дарэчы, адносіны паміж творцамі былі настолькі цёплыя, што ўсе апошнія гады свой дзень народзінаў Барадулін адзначаў у кампаніі Асташонка.

*"Гэта быў чалавек залатых рук і светлай душы... — сказаў Барадулін у эфіры "Еўрарадыё". — Горка і балюча ўсведамляць, што Генадзя больш няма. Я ведаў пра ягоную страшную хваробу. Апошні раз мы гутарылі тры дні таму, Генадзь стараўся быць бадзёрым, сказаў: "Мы яшчэ паваюем..."*

ЗАПРАШЭННЕ

## Што немцы думаюць пра беларускі бізнес?

10 кастрычніка ў Мінску Нямецка-беларускі эканамічны клуб і Прадстаўніцтва нямецкай эканомікі ў Беларусі правядуць Дзень нямецкай эканомікі.

Мерапрыемства праводзіцца ў Беларусі штогод з 2007 года. Сёлета форум пройдзе пад патранатам пасла **Вальфрама Мааса.** Тэма форуму: "*Малы і сярэдні бізнес — выклікі і шанцы для беларускай эканомікі".*

*"Роля малых і сярэдніх прадпрыемстваў для развіцця паспяховай, канкурэнтаздольнай, дынамічнай і арыентаванай на экспарт эканомікі неаспрэчная",* — адзначылі ў амбасадзе Германіі ў Мінску.

Да ўдзелу ў мерапрыемстве запрошаны шматлікія прадстаўнікі дзелавых колаў абедзвюх краін, члены ўрада Беларусі, Нямецкага саюза прамыслова-гандлёвых палат, а таксама галіновых саюзаў і арганізацый. Будуць абмяркоўвацца пытанні неабходнасці структурных пераўтварэнняў і стварэння спрыяльных рамачных умоў для развіцця малога і сярэдняга бізнесу. Да Дня нямецкай эканомікі прыўрочаны і візіт дэлегацыі нямецкіх дзелавых колаў у Беларусь.

ПРАЕКТ

## Знайсці наркотыкі за 40 секунд

*Эстонская кампанія NarTest прапануе стварыць на тэрыторыі Беларусі прадпрыемства па выпуску прыбораў для кантролю наркатычных, допінгавых, выбуховых рэчываў на аснове лазерных тэхналогій.*

Дырэктар NarTest Эндэл Сіф паведаміў, што кампанія займаецца распрацоўкай, вытворчасцю і продажам электронных прылад выяўлення наркотыкаў ва ўсім свеце. Выпрабаванні паказалі, што прыбор здольны ідэнтыфікаваць больш як 20 наркатычных рэчываў на працягу 40 секунд. *"Уся працэдура складаецца з чатырох дзеянняў і дастаткова простая ў эксплуатацыі. На навучанне рабоце аднаго амерыканскага паліцэйскага патрабуецца не больш за 2 гадзіны*", — цытуе БелаПАН Эндэла Сіфа. Ён таксама адзначыў, што NarTest імкнецца дапамагчы праваахоўным органам на ўсіх узроўнях у іх намаганнях па спыненні выкарыстання і продажу наркотыкаў.

СИТУАЦИЯ

## Белорусы снова пролетели с GreenCard

*Около 70 человек из-за ошибок фирмы-посредника не могут узнать обнародованные 1 мая результаты лотереи GreenCard. И пострадавшим, которые обратились в известную фирму "Центр Грин Кард", вряд ли удастся добиться правды.*

Компания "Центр Грин Кард", допустившая ошибку, разослала этим клиентам письма с объяснениями. В сообщении говорится, что *"1 мая 2012 года стартовала проверка результатов лотереи GreenCard. В процессе осуществления проверки выяснилось, что в связи со сбоем, произошедшем на нашем сервере, часть регистрационных номеров наших участников лотереи GreenCard (около 0,5%) не была сохранена. К сожалению, восстановить номер не представляется возможным в связи с отсутствием дублирующей копии базы данных. Говоря прямо, из-за этой ошибки можно сказать, что осенью мы не смогли помочь вам стать участником лотереи. Мы отправили вашу заявку, но не можем проверить результат".*

В качестве компенсации за пропущенный год участия в лотерее компания обещает бесплатно регистрировать заявки пострадавших клиентов в течение трех ближайших лет. Кроме этого, фирма вернула своим клиентам деньги за свою работу — 87.500 рублей и принесла *"искренние извинения в связи с произошедшим".*

Однако почему все-таки произошел сбой? Человеческий фактор или неполадки с техникой? После регистрации на сайте лотереи каждый заявитель получает подтверждение с номером, который он должен сохранить. Этот уникальный код — единственный ключ для проверки выигрыша. Сотрудники "Центр Грин Кард" почему-то не смогли сохранить номера некоторых клиентов. Как объясняет директор компании **Валерий Суряев**, все произошло из-за большого наплыва заявок в последний день подачи документов. Желающих воспользоваться услугами фирмы было так много, что сотрудники едва успевали справляться с наплывом. Тем более компания только с прошлого года впервые начала принимать заявки через интернет (раньше документы принимались только в офисе). В итоге одна из сотрудниц, регистрируя в последний день на сайте лотереи клиентов, не сохранила полученные номера. При этом организаторы "Грин Кард" не сообщают повторно эти данные. Поэтому теперь около 70 белорусов (20 из них подали документы через интернет, а 50 принесли их непосредственно в офис) не могут узнать, выиграли ли их заявки.

Ситуация осложняется тем, что письма на адрес победителя теперь не высылаются. Впрочем, как уверяет Валерий Суряев, еще есть небольшая надежда на то, что все-таки удастся узнать, выиграли ли заявки пострадавших клиентов. Если Госдепартамент увеличит квоты для стран-участниц, то организаторы лотереи в октябре проведут дополнительный розыгрыш. Поскольку его планируют провести впервые, в "Центр Грин Кард" надеются, что организаторы лотереи все-таки сообщат победителям как первого, так и второго туров об их выигрышах. Однако такой вариант развития ситуации маловероятен. Тем более на сайте "Центр Грин Кард" написано, что *"если проверка показывает, что вы не выиграли, значит, до осени можно расслабиться. Следующий официальный прием заявок стартует скорее всего в октябре".* Получается, что в октябре начнут принимать заявку уже на 2014 год. Что теперь делать пострадавшим участникам лотереи — большой вопрос. Теоретически они могут подать в суд на компанию, которая не выполнила свои обязательства. Вопрос в том, стоит ли игра свеч? Не факт, что даже в случае выигрыша полученные за моральный ущерб деньги покроют затраты на адвоката, да и сгоревшие нервные клетки они точно не восстановят. В другой раз эти "счастливчики" несколько раз подумают, прежде чем подавать документы на участие в лотерее через фирмы-посредники.

Между тем белорусы не первый раз попадают в неприятные ситуации, связанные с участием в лотерее "Грин Кард". В 2011 году из-за ошибки в работе компьютерной программы, которая отбирает анкеты, 90 процентов победителей были выбраны из числа тех, кто подал заявления в первые два дня регистрации. Сбой устранили, а отбор провели заново. Тогда пострадали и белорусы.

Кроме того, на электронные ящики участников лотереи приходят сообщения о том, что владелец e-mail выиграл "зеленую карту". Но для ее получения нужно перечислить деньги на определенный счет. Так, в 2011 году некоторые белорусские участники "Грин Кард" получили электронные письма с логотипом Госдепартамента США. Чтобы получить "зеленую карту", им предложили перечислить 880 долларов за каждого члена семьи на адрес Посольства США в Лондоне. Это якобы регистрационный платеж. Причем некоторые повелись. Сейчас на форумах можно найти немало комментариев обманутых таким образом людей.

### Как не стать жертвой обмана?

**1.**Заполнить анкету и проверить, выиграла ли ваша заявка, можно только на сайте *https://www.dvlottery.state.gov/.* Если раньше победителям присылали извещение почтой, то теперь этого уже не делают. Нужно самостоятельно смотреть результаты лотереи на официальном сайте. Если же на одном из развлекательных сайтов, к примеру по скачиванию фильмов, вам предлагают заполнить анкету для участия в лотерее, то это скорее всего, обычный спам. В таком случае стоит обратить внимание на доменное имя сайта. Официальный сайт лотереи находится на правительственном домене *.gov.*

**2.**Нужно помнить, что заявки на участие в лотерее принимаются только осенью в течение одного месяца, а не круглый год. Если вам предлагают зарегистрироваться в другое время, то это обман.

**3.**Ни в коем случае не стоит перечислять деньги на подозрительные счета якобы за участие в лотерее, которая изначально для всех бесплатна.

**4**.Все документы заполняются только на английском языке. Так что будьте осторожны, если вам придет письмо на русском.

**Сергей ДМИТРИЕВ.**

КРИМИНАЛ

## Омоновец убил женщину и проломил голову ребенку

*Жители Гродно обратили внимание на то, что вечером 18 сентября в микрорайоне "Вишневец" наблюдалось большое скопление милиции. По информации очевидцев, лесной массив, примыкающий к микрорайону "Погораны-Кошевники" по пути к рынку "Южный", прочесывала рота солдат.*

Как выяснилось, искали омоновца, который в состоянии алкогольного опьянения зарезал женщину, с которой проживал, а 10-летнему ребенку сковородкой проломил голову.

Ранее электронные СМИ распространяли информацию, ссылаясь на сайт "Гродненский форум". "Народная Воля" дозвонилась в пресс-службу УВД Гродненского облисполкома, где подтвердили, что эта информация не является выдуманной. Однако какие-либо подробности сообщить отказались, сославшись на то, что пока идет следствие.

По сообщению БЕЛТА, в Гродно произошло жестокое убийство женщины. В квартире жилого дома был обнаружен труп местной жительницы 1980 года рождения с колото-резаными ранами грудной клетки и живота. А уже через несколько часов в лесопарковой зоне на окраине областного центра оперативникам удалось задержать подозреваемого в совершении этого преступления. Им оказался знакомый жертвы — житель Гродно 1974 года рождения. Сотрудник ОМОНа.

Как говорят соседи, накануне соседи видели, как омоновец в состоянии алкогольного опьянения пытался войти в квартиру к своей подруге, но она ему не открывала...

**Дмитрий ГАЛКО.**

МЕДСПРАВКА

# Что надо знать о прививках против гриппа

***В прошлом сезоне почти 32 процента белорусов сделали прививку от гриппа, и эпидемии в стране не случилось. Врачи говорят, что связи здесь никакой. Но продолжают настаивать: вакцинация — самая действенная и эффективная профилактика гриппа.***

***Что нужно знать, прежде чем делать прививку? Читателей "Народной Воли" консультирует заведующая терапевтическим отделением медицинского центра "ЛОДЭ" Людмила ГУЛЕВИЧ.***

### Не старый знакомый

Увеличение заболеваемости гриппом в Беларуси ожидается в январе. Предварительные прогнозы свидетельствуют, что ничего необычного произойти не должно. В прошлом году, например, грипп мы пережили спокойно, потому что штаммы вируса оказались слабые, большинство населения встречалось с ними в предыдущие годы и, следовательно, имело иммунитет к этому вирусу. По одному из прогнозов в эпидемическом сезоне 2012—2013 годов могут циркулировать новые, не известные нашей иммунной системе вирусы гриппа.

— И это аргумент в пользу прививки, потому что в состав современных вакцин входят три компонента: два варианта вируса А (причем "свиной" H1N1 есть всегда) и вирус В, — говорит Людмила Гулевич. — Более того, штаммовый состав вакцин ежегодно меняется в соответствии с рекомендациями ВОЗ, специалисты которой анализируют эпидситуацию в мире круглогодично. В этом году вакцина необычна тем, что на 2/3 изменен ее состав, в него входят новые вирусы гриппа, выявленные в последние несколько лет.

### Как действует прививка?

— Вакцинация успешна настолько, насколько попали с составом вакцины, — объясняет специалист. — Но считается, что если даже не попали на сто процентов, все равно несколько подтипов вируса в вакцине присутствуют и, если человек даже заболевает, он легче переносит заболевание и не страдает осложнениями. А именно осложнения гриппа могут совершенно здорового человека свести в могилу. К сожалению, врачи нередко встречаются с такими ситуациями. Кроме того, лечение постгриппозных заболеваний — синусита, отита, бактериальной пневмонии — требует много времени и сил.

### Какую вакцину выбрать

— Уровень вакцин за последние годы сильно изменился, — говорит Людмила Андреевна. — Сегодня на рынке представлены вакцины второго и третьего поколений. Это сплит-вакцины, они абсолютно безопасны в смысле введения и осложнений от них. Когда прививки делали живыми вакцинами, человек непосредственно после прививки мог заболеть и тяжело переносить заболевание. Сейчас, когда пациентов стали прививать сплит-вакцинами, это практически невозможно. Современные вакцины инактивированы, они не позволяют организму дать ответ на прививку в виде заболевания гриппом.

Существует несколько видов таких вакцин. Например, "ЛОДЭ" закупает вакцину второго поколения — французскую "Ваксигрипп" и третьего поколения — "Инфлювак", которая производится в Нидерландах. В прошлом году привили ими около трех тысячи человек, ни одного случая осложнений не было.

К слову, даже эти прививки отличаются между собой. Прежде всего степенью очистки. "Ваксигрипп" абсолютно очищен от липидов, куриного белка, вакцина содержит фрагменты самой клетки вируса. В "Инфлюваке" нет даже фрагментов клетки вируса, только оболочка. Поэтому людям, которые страдают каким-либо видом аллергии, лучше прививаться "Инфлюваком".

### Кому прививка необходима, а кому противопоказана

— Мнение людей изменить очень сложно, — замечает терапевт. — Порой пожилые люди или те, кто страдает хроническими заболеваниями, боятся вакцинироваться в силу состояния здоровья. Однако лучше привиться, чем заболеть и получить осложнения. Ведь хронические заболевания как раз обостряются под действием вируса, так как у заболевшего происходит страшное угнетение иммунитета. Обязательно следует прививаться детям, тем, кто в силу своей деятельности контактирует с большим количеством людей — представителям сферы обслуживания, торговли, врачам, учителям и т.д.

Наверняка приходилось слышать мнение, что, мол, прививку сделал, а все равно болел тяжело. Но этот пример не должно останавливать других. Дело в том, что, по некоторым данным, около 10 процентов людей не дают иммунного ответа на прививку. То есть какую бы вакцину им ни ввели, в их организме все равно не вырабатываются антитела, и они все равно заболевают. То есть действие вакцины не может быть одинаковым для всех.

Есть противопоказания к вакцинации. Но они незначительны. Это реакция на саму вакцину и аллергия на куриный белок.

### Не опоздай!

— Иммунный ответ на прививку формируется от двух недель до месяца, — напоминает Людмила Андреевна. — То есть через месяц в организме уже вырабатываются антитела, и он готов противостоять гриппу. Защиту прививка обеспечивает от полугода до 10 месяцев, максимум до года. Поэтому прививаться нужно каждый год.

Сентябрь-октябрь — самое лучше время для вакцинации. Потому что еще нет подъема и пика заболеваемости ОРВИ. А прививку важно сделать, когда вы здоровы: тогда эффект от прививки будет выше.

### Только не аспирин!

— Если вы все же заболели гриппом,— предупреждает Людмила Гулевич, — **оставайтесь дома и вызывайте врача**. Больной гриппом может заразить от 100 до 300 человек! Что касается лечения, то назначить его должен доктор! Самолечение довело уже до того, что с каждым годом, например, спектр антибиотиков, которые врачи могут назначать пациентам, становится все уже и уже. При гриппе антибиотики принимать вообще нельзя, они могут быть назначены, когда начинаются бактериальные осложнения. Определить это может только доктор.

Несколько лет на рынке мы имеем противовирусные препараты, которые непосредственно действуют на вирус гриппа, — "Тамифлю", "Реленза". Если их принять в первые дни гриппа, заболевание протекает гораздо легче.

Температуру сбивать не обязательно, если вы можете ее терпеть. Чем температура выше, тем больше вероятности, что вирус в этой температуре сгорит. Но если вы страдаете от температуры, лучше принять лекарство, которое назначит доктор. Это могут быть препараты противовоспалительной или нестероидной группы, парацетамол. Ни в коем случае при гриппе нельзя принимать аспирин! Вирус гриппа действует на стенки сосудов, а аспирин улучшает проницаемость сосудов, и это опасно кровотечением.

Что касается народных средств, то это дополнение к лечению и средства профилактики. Лимоны, апельсины, чеснок принимать можно каждый день. Можно делать чесночные ингаляции, пить малиновый, смородиновый чаи, настой липового цвета. Вообще, жидкости во время болезни нужно пить очень много!

**Мария ЭЙСМОНТ.**

К СЛОВУ

### Бесплатно можно привиться китайской или российской вакциной

В Минске вакцинация против гриппа началась еще в конце августа. Для вакцинации за счет средств бюджета закуплены две вакцины: китайская сплит-вакцина "Флюваксин" и российская субъединичная вакцина "Гриппол плюс", которая рекомендована для пациентов с аллергическими реакциями. Обе вакцины использовались и в прошлом году.

Бесплатно прививку сделают хроническим больным, гражданам из группы повышенного риска, а также пенсионерам и детям.

